**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.58, 20.26, 14.28;
Віцебск — 5.45, 20.19, 14.34;
Магілёў — 5.48, 20.15, 14.27;
Гомель — 5.51, 20.06, 14.15;
Гродна — 6.16, 20.38, 14.22;
Брэст — 6.19, 20.37, 14.18.
**МЕСЯЦ:**
Апошняя квадра 21 жніўня
**ІМЯНІНЫ:**
Мацея, Антона;
Цэзара, Тыматэуша



# ЗВЯЗДА

22 ЖНІЎНЯ 1992 г.
субота, №№ 167—168
[21945—21946]

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ЖЫХАРЫ БЕЛАРУСІ ЭВАКУІРАВАНЫ З НОВАГА АФОНА

*Паведамленне прэс-службы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.*

21 жніўня ў першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кузняцова адбылася міжведамасная нарада па пытанню аказання дапамогі грамадзянам рэспублікі, якія адпачывалі ў Абхазіі. Сфарміравана спецыяльная група з работнікаў парламента, урада, МЗС, Мінабароны, ГА, КДБ, якой даручана прыняць усе неабходныя меры па эвакуацыі жыхароў Беларусі з курортных устаноў Абхазіі ў бяспечныя месцы і хутчэйшай дастаўкі іх на радзіму.

Для ўдзелу ў рабоце апаратыўнай групы Расійскай Федэрацыі па эвакуацыі ўсіх адпачываўшых у Сочы вылецеў прадстаўнік штаба Грамадзянскай абароны Беларусі. Яму даручана на месцы ацаніць сітуацыю, праінфармаваць кіраўніцтва рэспублікі аб развіцці падзей. Пры неабходнасці для эвакуацыі людзей Рэспубліка Беларусь прадаставіць свае транспартныя самалёты. У Абхазію ў бліжэйшыя дні будзе накіравана спецыяльная місія Чырвонага Крыжа Беларусі, каб дапамагчы адпачываючым, якія жадаюць пакінуць зону канфлікту.

Падтрымліваецца пастаянная прамая тэлефонная сувязь з камандаваннем ВПС і ВМФ Расійскай Федэрацыі. Як паведамляюць яе прадстаўнікі, на месцах прыняты ўсе меры па вывазу людзей марскім і паветраным транспартам. Згодна з гэтымі паведамленнямі, з санаторыя «Шнуквары» (а не «Шмуквалі», як было аб'яўлена раней), турбаз «Кіарас», «Вадападная» і «Манастырская» ў раёне Новага Афона, дзе знаходзіліся жыхары Беларусі, эвакуіраваны ўсе адпачываўшыя.

Эвакуіраваныя праз Гудауту і Сочы самалётам вылятаюць у аэрапорты Расіі. Вывезена ўжо больш як 25 тысяч чалавек. На сёння дасягнута дагаворанасць з абхазскім і грузінскім бака-

(Заканчэнне на 5-й стар.).

### З ЗАЕЗДАМ НА РАДЗІМУ

У суботу, 22 жніўня, як стала вядома карэспандэнту БЕЛІНФАРМа з кампетэнтных крыніц, позна вечарам з Масквы ў Мінск з кароткім візітам прыбывае міністр замежных спраў Ізраіля Шымон Перэс. Высокі госць мае намер сустрэцца з прэм'ер-міністрам Беларусі Вячаславам Кебічам, затым наведаць мясціны, дзе раней жылі яго бацькі.

Кароткія біяграфічныя даныя кіраўніка знешнепалітычнага ведамства Ізраіля.

Шымон Перэс нарадзіўся ў 1923 годзе ў Заходняй Беларусі, якая ў той час уваходзіла ў састаў Польшчы. Яшчэ будучы дзіцем, разам з бацькамі пераехаў у Ізраіль. Вучыўся ў сельскагаспадарчай школе Бен Шэмен і быў адным з заснавальнікаў кібуца «Алумот» у Іарданскай даліне. У 1943 годзе яго выбіраюць сакратаром маладзёжнага руху Ханаар Хавед. У 1948 годзе ён назначаецца кіраўніком ваенна-марскога ўпраўлення, у 1949 — узначальвае дэлегацыю міністэрства абароны Ізраіля ў ЗША. У наступныя гады Шымон Перэс займае вядучыя пасады ў міністэрстве абароны, у тым ліку з 1959 па 1965 год з'яўляецца намеснікам міністра абароны.

Ш. Перэс — член кнесета з 1959 года. У 1968 годзе ён садзейнічае аб'яднанню партый РАФІ і МАПАЙ у Ізраільскую партыю працы. У 1969—70 гадах — ён міністр абсорбцыі эміграцыі, з 1970 па 1974 год — міністр транспарту і сувязі, у 1974—75 гадах — міністр інфармацыі, а затым да 1977 года — міністр абароны.

У 1977 годзе Ш. Перэс выбіраецца старшынёй блока рабочых партый. У 1984 годзе ў Ізраілі фарміруецца ўрад нацыянальнага адзінства, і Шымон Перэс становіцца яго першым прэм'ер-міністрам, а затым віцэ-прэм'ерам і міністрам замежных спраў (1986—88 гады). У 1988—90 гадах — ён міністр фінансаў. У 1990—92 гадах — лідэр апазіцыі ў кнесеце.

Шымон Перэс апублікаваў рад кніг і артыкулаў па палітычнай тэматыцы. З 1978 года — ён віцэ-прэзідэнт Сацыялістычнага інтэрнацыянала.

У ліпені 1992 года Ш. Перэс назначаны міністрам замежных спраў у новым урадзе Ізраіля.

# ФУНДАМЕНТ ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЫ

ДЗЕЮЧАЕ ЦЯПЕР КАНСТЫТУЦЫЙНАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА ў многім не адпавядае патрабаванням часу. Узніклі новыя гістарычныя перадумовы, з якімі неабходна лічыцца. Гэта аб'яўленне рэспублікай сваёй поўнай юрыдычнай, палітычнай і эканамічнай самастойнасці, набыццё ёю дзяржаўнага суверэнітэту, выключэнне манаполіі на ўладу адной палітычнай партыі і стварэнне ўмоў для многапартыйнай сістэмы, хутчэйшы пераход да рыначных адносін, вызначэнне новай ролі чалавека ў дзяржаўнай сістэме, грамадстве.

На першым плане павінен быць чалавек як асоба, так як ён ёсць мера ўсіх каштоўнасцей. Чалавеку павінны быць забяспечаны эканамічныя і палітычныя свабоды, дастойнае існаванне, сацыяльная абарона, рэальныя магчымасці ўдзельнічаць у вырашэнні важнейшых дзяржаўных пытанняў.

Усе гэтыя праблемы павінна вырашыць новая Канстытуцыя і тым самым залажыць фундамент для пабудовы прававодй дзяржавы.

Праект Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь быў апублікаваны ў адпаведнасці з рашэннем Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь для народнага абмеркавання ў рэспубліканскіх газетах «Звязда», «Народная газета», «Советская Белоруссия» і «Белорусская нива». Апублікаванне праекта вызвала актыўны абмен думкамі, па спрэчных праблемах дыскусію, мноства канкрэтных паправак да артыкулаў і палажэнняў. У Канстытуцыйную камісію прыслалі свае заўвагі і прапановы каля шасці тысяч чалавек.

Неаднаразова праводзіліся пасяджэнні Канстытуцыйнай камісіі, дзе аналізаваліся паступіўшыя ў ходзе народнага абмеркавання прапановы і заўвагі.

На пасяджэннях рабочай групы, якая абмяркоўвала літаральна кожны артыкул, улічаны прапановы, паступіўшыя ад народных дэпутатаў, грамадзян і выканкомаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў. У выніку ў новым варыянце праекта Канстытуцыі ўдакладнена каля 100 артыкулаў са 171.

Найбольш вострыя дыскусіі і процілеглыя думкі былі па палажэннях, якія закраналі асновы канстытуцыйнага ладу, правы, свабоды і абавязкі грамадзян, вышэйшы заканадаўчы орган дзяржаўнай улады рэспублікі, увядзенне паста Прэзідэнта ў рэспубліцы, мясцовае самакіраванне.

Шмат цікавых прапаноў было выказана па артыкулу 4 праекта Канстытуцыі, які вызначае, што дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і думак, што ніякая ідэалогія не можа ўстанаўлівацца ў якасці афіцыйнай дзяржаўнай ідэалогіі. Пры дапрацоўцы гэтага артыкула ўлічаны прапановы, выказаныя грамадзянамі Барадаенка А. Я., Крышэвічам В. І.

Пры аналізе паступіўшых прапаноў і заўваг па праекту Асноўнага Закона адзначаюцца яго поўная дэідэалагізацыя, адпаведнасць міжнароднай канстытуцыйнай практыцы, а таксама прынцыпова новае вырашэнне ў праекце асноўных правоў, свабод і абавязкаў грамадзян.

Пры дапрацоўцы праекта ўлічаны прапановы аб канстытуцыйнай рэгламентацыі пытанняў, што датычацца абароны і нацыянальнай бяспекі. У праект уключаны новы раздзел «Абарона і нацыянальная бяспека».

Сур'ёзнаму абмеркаванню падвяргаліся артыкулы раздзела І аб асновах канстытуцыйнага ладу. У выніку дапрацаваны артыкулы 1—4, 9—14, 16—18 першага раздзела.

Больш за ўсё прапаноў было выказана па раздзелу II, што закранае правы чалавека. У асаблівасці гэта тычыцца гарантуемага Канстытуцыяй права на працу, адукацыю і ахову здароўя. Па гэтых палажэннях унесена больш 130 прапаноў і заўваг. Улічваючы шматлікія прапановы аб неабходнасці захавання бясплатнай адукацыі і аховы здароўя, артыкулы Канстытуцыі, якія замацоўваюць права грамадзян на бясплатнае карыстанне шырокай сеткай дзяржаўных устаноў аховы здароўя і бясплатную школьную і прафесіянальную адукацыю, дапрацаваны. Якасна дапрацаваны і іншыя артыкулы дадзенага раздзела.

Пры ўсёй супярэчнасці думак аб інстытуце прэзідэнцтва ў рэспубліцы гэта глава пакінута ў праекце і дапрацавана з улікам усіх прапаноў.

Важнай рысай дэмакратычнасці дзяржаўнай улады з'яўляецца прынцып яе раздзялення на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. У ходзе народнага абмеркавання гэта пытанне не пакінута без увагі.

Назва вышэйшага заканадаўчага органа дзяржаўнай улады ў праекце прадстаўляецца ў трох варыянтах. З улікам выказаных заўваг і прапаноў якасна дапрацаваны артыкулы, якія рэгламентуюць паўнамоцтвы вышэйшага заканадаўчага органа дзяржаўнай улады і вышэйшага выканаўчага і распарадчага органа Рэспублікі Беларусь.

Вынікам вялікай работы над праектам Канстытуцыі можна лічыць прынцыпова перапрацаваны раздзел «Мясцовае самакіраванне». Канешне, прадстаўлены варыянт гэтага раздзела не ідэальны. Па пытаннях мясцовага самакіравання ёсць яшчэ многа праблем. Але рабочая група па падрыхтоўцы праекта Канстытуцыі прыйшла да думкі прадставіць да далейшага абмеркавання гэты раздзел у такім варыянце.

Праект Канстытуцыі абмяркоўваўся на сесіях мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, пасяджэннях іх выканаўчых камітэтаў, у працоўных калектывах, на сходах грамадзян. Вялікая работа па абмеркаванню праекта праведзена ў Брэсцкім абласным Савеце народных дэпутатаў, выканкоме Магілёўскага абласнога Савета народных дэпутатаў, Горацкім раённым Савеце народных дэпутатаў і іншых. Хочацца адзначыць вялікую актыўнасць нашых грамадзян Малік Н. А., Крыжэвіча В. І., Далгова П. В., Крутаўцова С. Ф., Трафімовіч, Зелянкова В. Н., Кручанок І. Н., Шчукіна, Ніякоўскага А. М., Тарасевіч М. І. і іншых. Усіх пералічыць немагчыма, але хочацца выказаць вялікую падзяку ўсім прадпрыемствам, установам, арганізацыям, а таксама грамадзянам, якія прыслалі свае прапановы па праекту Канстытуцыі.

Праект Канстытуцыі, які ў далейшым павінен стаць асноўным законам жыцця кожнага, падвергся ўсебаковаму аналізу, накіроўваўся незалежным экспертам, вучоным, прайшоў грамадскую экспертызу, павысіў палітычную актыўнасць грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь павінна стаць базай для прыняцця законаў, што вынікаюць з яе асноўных палажэнняў, правядзення новых выбараў, фарміравання новых структур дзяржаўнай і выканаўчай улады. Новыя падыходы да фарміравання вышэйшага заканадаўчага органа рэспублікі — чатырохгадовы тэрмін яго паўнамоцтваў, прафесійная парламенцкая дзейнасць дэпутатаў і, самае галоўнае, падрыхтоўка выбараў на новай прававой аснове, неабходнасць забеспячэння пераходу да іншай якасці дзяржаўнай улады — робяць бессэнсоўным рэферэндум аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Маючы адбыцца разгляд Канстытуцыі ў другім чытанні трэба лічыць неабходным этапам для ўзгаднення яе асноўных палажэнняў. Канчаткова прыняць Канстытуцыю належыць у трэцім чытанні.

**Кіраўнік рабочай групы па падрыхтоўцы праекта новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь В. ШАЛАДОНАЎ.**

*(Праект Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь друкуецца на 3-й і 4-й старонках).*

### АГОНЬ АДСТУПАЕ

**Прайшоўшыя невялікія дажджы і спад невыноснай спякоты, здаецца, збілі напружанне з ляснымі пажарамі ў рэспубліцы.**

**Цяпер гарань у асноўным толькі балоты.**

**Зніклі дымавыя хмары і з «мінскага» неба.**

**Але, нягледзячы на ўтаймаванне стыхіі, работы пакуль што працягваюцца.**

**Асноўныя сілы кінуты на Мінскі раён, непасрэдна на тэрыторыю калгаса «Волма», дзе яшчэ дымяцца тарфянікі. Туды сцягнута ўся рэзервовая тэхніка з Клецка, Капыля, Нясвіжа. Днююць і начуюць там амаль і ўсе работнікі ўпраўлення пажарнай аховы вобласці.**

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### ВЫПРАВІЦЬ ПАМЫЛКУ — МАРАЛЬНЫ ДОЎГ

ГРОДНА **(А. Дук).** Скончылася даследаванне фундамента былога помніка архітэктуры XV—XVI стагоддзяў—касцёла Фара Вітаўта, які лічыўся самым буйным і прыгожым у Вялікім княстве Літоўскім. Па распараджэнню гродзенскіх гарадскіх улад у 1961 годзе касцёл быў узарваны, а на яго месцы разбіты сквер.

Пасля раскопак археолагі і гісторыкі, якія гэтым займаліся, выказалі думку, што тут можна будаваць новы храм. Для гэтай работы патрэбна вельмі многа грошай, а пакуль іх няма, то падрыхтаваны праект кансервацыі астаткаў фундамента.

# Нам не варта чакаць літасці ад манапольнай эканомікі

Можна смела сцвярджаць: эканомікай у наш час сталі цікавіцца ўсе амаль без выключэння. І гэта не простая цікаўнасць. Усе мы, як кажуць, людзі, усе хочам жыць няблага, жадаем быць упэўненымі ў заўтрашнім дні, у тым, што ён будзе забяспечаным. Напачатку ж усяго гэтага ляжыць эканоміка, становішча ў ёй. Цікаўнасць да эканомікі падштурхнулі тыя працэсы, што адбываюцца, дэмакратызацыя эканамічнай думкі. А яшчэ, на жаль, сам спад у ёй ды ўсведамленне, якое пачынае прабівацца (і гэта ўжо абнадзейвае), таго, што ніхто нас не выратуе, ніхто нам не створыць светлую будучыню, акрамя нас саміх.

У пэўнай меры адлюстроўвае тыя эканамічныя працэсы, якія праходзяць у рэспубліцы, спрабуе ўздзейнічаць на іх праз друкаванае слова наша газета. Эканамічныя праблемы займаюць на яе старонках значнае месца, хоць, зрэшты, калі ўжо быць самакрытычнымі, мець на ўвазе цяперашнюю цікаўнасць да іх,— гэтага, пэўна ж, недастаткова. Якое месца зоймуць яны заўтра, г. зн. у наступным годзе, якую лінію паводзін выбірае для сябе рэдакцыя, у прыватнасці яе эканамічны аддзел? Паспрабуем выкласці своеасаблівую эканамічную праграму, прычым яна поўнасцю адкрытая для заўваг і ўдакладненняў чытачоў. Не варта ўтойваць: пачалася падпіска на газеты і часопісы на наступны год, ідзе сапраўдная барацьба за чытача. А ён павінен ведаць, чаго яму трэба чакаць ад той ці іншай газеты, якую ўзяць у дарадчыкі.

Па-першае, і самае галоўнае, эканамічны аддзел рэдакцыі будзе цвёрда і паслядоўна адстойваць СВАБОДНУЮ ЭКАНОМІКУ, эканоміку, заснаваную на РЫНАЧНЫХ ПРЫНЦЫПАХ РАЗВІЦЦЯ. І гэта не нейкая даніна модзе. Наша грамадства скідвае ўрэшце з сябе ідэалагічны дурман, пачынае ўсведамляць, разумець, што на дзяржаўным таталітарна - эканамічным прымусе, на прынцыпах адзінага катла, з якога мы сёрбалі (ды і працягваем сёрбаць) усе разам,— дабрабыту не пабудуеш. Катлавы метад супярэчыць самой сутнасці чалавека з яго імкненнем да незалежнасці, свабоднага развіцця, глушыць усялякую індывідуальнасць.

А яшчэ будзем памятаць наступнае: у свой час усіх нас вызвалілі ад эканомікі, а разам з тым і ад сапраўднай адказнасці за яе, за вынікі. Адпаведны плён мы пажынаем не толькі цяпер, а ўжо доўгі час.

ЭКАНАМІЧНАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ — другі кірунак праблем. Па сутнасці— зусім не асвоены, няходжаная цаліна. Усе мы павінны засвоіць, што менавіта на эканамічнай незалежнасці грунтуецца і палітычная незалежнасць, дзяржаўнасць. Як дасягнуць спачатку менавіта эканамічнай? Яна не выключае, а, наадварот, спрыяе інтэграцыі Беларусі ў сусветную эканоміку. Якім нам бачыцца гэты працэс, як паскорыць яго, бо мы ўжо зведалі, што эканамічная ізаляванасць — сабе на страты? А яшчэ — якімі павінны быць адносіны з рэспублікамі былога Саюза, ці варта нам гарадзіць тут эканамічны плот? Таксама надзвычай важныя пытанні, у вырашэнні якіх павінна быць задзейнічана і грамадская думка.

Цікавая, важнейшая тэма ва ўмовах рынку, які нараджаецца, — УЗАЕМААДНОСІНЫ з ІМ простага, як часам кажуць, ЧАЛАВЕКА. Так, менавіта ўзаемаадносіны, а не «абарона»... Надзвычай моднае цяпер слова, але ж дзе логіка: самі набліжаем гэты рынак і раптам —«абарона». Навошта ён тады? Менавіта прыстасаванне да рыначных умоў, навучанне рынку, уменне атрымліваць з таго развяволення эканамічных адносін, якое ён нясе, асабістую выгаду, у выніку ўсім разам рухаць прагрэс. Перафразіруючы Мічурына, можна сказаць так: нам не варта чакаць літасці ад дзяржавы і яе манапольнай эканомікі, узяць іх— наша задача. «Звязда» ўжо давала сёе-тое ў гэтым плане. Напрыклад, прыгадаем нашу рубрыку «Каштоўныя паперы», якая неаднаразова з'яўлялася на старонках. Разам з тым, рынак нясе значна больш складаныя адносіны, чым гэта было раней, варта скіроўваць іх у рамкі цывілізаванасці. Карацей, мы таксама за тое, каб зусім недзеяздольны або маламаёмны чалавек не застаўся ва ўмовах рынку сам-насам.

«Звязда», як і цяпер, будзе рэгулярна прадстаўляць эканамічныя агляды, якія давалі б добрае ўяўленне аб стане і развіцці нашай эканомікі. Пры гэтым у першую чаргу пад яе пільнай увагай будуць ЦЭНЫ і ЗАРПЛАТА, СТАН СПАЖЫВЕЦКАГА РЫНКУ І ПЛАЦЕЖАЗДОЛЬНАГА ПОПЫТУ НАСЕЛЬНІЦТВА, мяркуюцца і адпаведныя ПРАГНОЗЫ НА БЛІЖЭЙШУЮ БУДУЧЫНЮ. Мы таксама не збіраемся абмінаць і такое надзвычай важнае пытанне — як расходуюцца нашы ПАДАТКІ, г. зн. бюджэтныя сродкі. Марнатраўства, пра якое мы часам гаворым, варта не дапускаць найперш на вышэйшым узроўні. Вядома ж, не застануцца па-за ўвагай і пэўныя дзеянні, «бягучыя» меры, рашэнні ўрада, тых ці іншых ведамстваў, прычым рэдакцыя пакідае за сабой права на незалежны каментарый. Адна з асноўных тэм — ход прыватызацыі.

А ў заключэнне яшчэ раз варта нагадаць: наша «праграма» адкрытая для заўваг і ўдакладненняў.

**Іван БАРАНОЎСКІ, рэдактар эканамічнага аддзела.**



**Верш Пімена ПАНЧАНКІ напісаны спецыяльна для «Звязды»**

## Горкія думкі

**Была зямля, цяпер — малыя соткі...**
**Адданасць знікла да карміцелькі-зямлі,**
**Няма ўжо бульбы той — разварыстай і сопкай,**
**І не гудуць скрозь пчолы і чмялі.**

**З наседжаных мясцін сагналі нас Хрушчовы,**
**І мы — неперспектыўныя — пайшлі да гарадоў.**
**Сяліліся ў смярдзючыя трушчобы,**
**А на кватэры спіс — на сто гадоў.**

**Глядзім і лічым, што яшчэ не ўкралі?**
**Пра што зноў хлусяць?**
**Веры больш няма...**
**Даўно мы з лёну палатно не ткалі...**
**У сэрцы непагодная зіма.**

**А мы яшчэ жывыя,**
**Мы — не зломкі.**
**І дзе ты, мудрая эканамістаў раць?**
**І хто прымусіў нас ля ніў сваёй старонкі**
**І праклінаць, і моўчкі паміраць?**

**Чырвоныя паны,**
**Старшыняў клас вясёлы,**
**Закрылі фермерам і дбалым людзям шлях.**
**Няма кармоў і рэжуць добрых цёлак,**
**Хаваюць жыта па глухіх кутках.**

**Дакуль цярпець крадзеж і рабаванне,**
**Развал і дыктатуру нечуваных цэн?**
**Ці прыйдзе зноўку залатое ранне?**
**Ці выжывуць падаткі з родных сцен?**

**Пра гэта ўсё мы думаем так горка,**
**І спадзяёмся: хто? калі? калі?**
**Запаліць нам жыцця і праўды зорку,**
**І працы радасць пойдзе па зямлі?**

*Заўтра народнаму паэту Беларусі Пімену ПАНЧАНКУ—75 гадоў*

## «Праўда веку! Зрабі нас дужымі...»

*...Ад інтэрв'ю Пімен Емельянавіч адмовіўся. Растлумачыў па тэлефоне: не вельмі добра сябе адчувае, а ў дадатак гарачыня такая на вуліцы: «У Афрыцы быў — здаецца, і там не такое пекла...» Перш чым развітацца, яшчэ раз удакладніў:*

*— З якой вы газеты?*

*— Са «Звязды».*

*— Са «Звязды»?! Ну, тады трэба сустрэцца, — нягледзячы ні на што. Прыходзьце, буду чакаць!*

— Перш за ўсё хачу выказаць любоў да вашай газеты, — сказаў Пімен Емяльянавіч, разгортваючы свежы нумар. — Мы ж равеснікі, і адразу пасля піянерскіх газет я чытаў бацькаву «Звязду». А з 1934 года, як пачаў настаўнічаць, стаў выпісваць газету — і выпісваю да сённяшняга дня. Толькі вайна перапыняла сяброўства са «Звяздой». Так што ў маёй асобе вы бачыце чытача і падпісчыка з паўвекавым стажам.

**— Дзякуй за добрыя словы.**

— Паверце, гавару шчыра, ад сэрца, гэта не дзяжурны камплімент. Папулярнасць «Звязды» была вялікай і да вайны. Напрыклад, успамінаю, як у 1939 годзе, у час паходу ў Заходнюю Беларусь, мы выпускалі франтавую газету «Беларуская звязда». Некаторыя здзіўляліся: чаму «звязда», пабеларуску ж будзе «зорка»? Тлумачылі, што назва франтавой газеце дадзена пад уплывам рэспубліканскай «Звязды», у якой ужо на той час было шмат добрых традыцый.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

